









**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** | **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

4 кастрычніка 2000 года
Цана 90 рублёў

**№ 40 (2702)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**АЛІМПІЙЦЫ**

## ЗОЛАТА Кацярыны КАРСТЭН



**Як і меркавалася, алімпійская чэмпіёнка-96 па акадэмічным веславанні Кацярына Карстэн (Хадатовіч) у Сіднэі змагла стаць уладальніцай алімпійскага "золата" і першая прынесла ў скарбонку зборнай Беларусі вышэйшую ўзнагароду. Кацярына здабыла яе ў надзвычай упартай барацьбе з балгаркай Румянай Неўкавай.**

**Алімпійская чэмпіёнка ў веславанні Кацярына КАРСТЭН (Хадатовіч) (на здымку ў цэнтры).**



*Лёгкаатлетка Наталля САЗАНОВІЧ заваявала бронзавы медаль у сямібор'і.*



*Бронзавы прызёр Алімпіяды дзюдаіст Анатоль ЛАРУКОЎ (другі справа) на п'едэстале гонару.*

*Напрыканцы верасня Мінск наведала вялікая дэлегацыя з Японіі, у склад якой увайшлі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Нагасакі, святары каталіцкай епархіі, храма Уракамі. У праграме візіту было правядзенне "круглага стала" ў Доме дружбы, адкрыццё мемарыяльнага комплексу "Звон Нагасакі" і міжнароднай фотавыстаўкі майстроў С. Тамацу, У. Шубы і мастака С. Давідовіча "Ядзерныя трагедыі XX стагоддзя".*



**ДОМ ДРУЖБЫ**

## АДЗІНЫ БОЛЬ

Не забываецца жахлівы час, калі амерыканскія лётчыкі скінулі атамныя бомбы на японскія гарады — Хірасіму і Нагасакі. Можа менавіта таму жыхары Японіі прыйшлі першымі на дапамогу Беларусі, якая пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі: першы гуманітарны груз быў дасланы менавіта адтуль. Гэта адзначыла ў сваім выступленні ў час "круглага стала" сакратар грамадскага таварыства "Беларусь — Японія" Галіна Пяткевіч.

У гэтай сустрэчы прынялі ўдзел усе члены японскай дэлегацыі, а таксама прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў,

2 стар.

**ЧЫРВОНЫ КАСЦЁЛ**

## «ЗВОН НАГАСАКІ»

Пры касцёле святых Сымона і Алены адкрыты помнік ахвярам ядзерных катастроф XX стагоддзя "Звон Нагасакі". У 1945 годзе ў Нагасакі за 50 метраў ад каталіцкага храма Уракамі ў паветры адбыўся выбух плутоніевай бомбы. Храм у адно імгненне быў разбураны. З дзвюх вежаў Уракамі адна была знішчана, а другая цудам уцалела. 24 снежня 1945 года з-пад абломкаў будынка дасталі звон. Гэта знаходка для прыхаджан стала сімвалічнай. З таго часу звон "Анёла" можна пачуць на галоўнай плошчы Нагасакі. Копія гэтага звона была ўстаноўлена ў Мінску. "Японскі храм Уракамі дорыць беларускаму

5 стар.

**НЁМАНСКІЯ МАТЫВЫ Генадзя АЎЛАСЕНКІ**

**Птушак гоман...
Штосьці шэпча патаемна асака...
Гэта Нёман,
беларуская
магутная рака!
Тут начамі
туманы ўстаюць,
як здань сівых вякоў...**

**Тут мячамі
нашы продкі
сустракалі крыжакоў!
Тут спляліся
карані
яцвягаў,
прусаў,
крывічоў...**



Фота Я. КАЗЮЛІ.

**МЕРКАВАННЕ**

# БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА...

**У Празе прайшлі 55-я штогадовыя сустрэчы Міжнароднага валютнага фонду (МВФ) і Групы Сусветнага банка (СБ), у якіх узялі ўдзел прадстаўнікі больш чым 180 краін свету. Сярод краін — удзельніц форуму — і Беларусь. Ці наладзяцца пасля гэтага мерапрыемства нармальныя ўзаемаадносіны паміж Беларуссю, МВФ і СБ? Надзея ёсць...**

Як заўважылі напярэдадні на прэс-канферэнцыі міністр эканомікі краіны **Уладзімір Шымаў** і прадстаўнік МВФ у Літве і Беларусі **Марк Хортан**, узаемаразуменне паміж бакамі набыло канкрэтныя рысы пасля 14 верасня, калі кіраўніцтва Беларусі здолела выканаць галоўны пункт, што стаяў ва ўсіх рэкамендацыях МВФ апошніх гадоў: аб'яднаны грашовыя курсы... Пакуль на Бларусі існавала розніца паміж афіцыйным і "чорным" курсамі, пра нейкае канкрэтнае супрацоўніцтва паміж МВФ, СБ і ўрадам краіны не магло быць і гаворкі. Дапамога фінансава-крэдытных структур сусветнай супольнасці выяўлялася ў большасці сваёй у форме рэкамендацый: маўляў, пажадана, каб ваша краіна развівалася "так" і "так"... Цяпер жа з'явіліся больш грунтоўныя магчымасці для супрацоўніцтва.

Урад Беларусі і МВФ прыйшлі да агульнай высновы пра неабходнасць адкрыцця ў краіне так званай неафіцыйнай праграмы супрацоўніцтва, якая б тычылася макраэканамічных параметраў развіцця Беларусі. Гэтую праграму не трэба выносіць на суд савета дырэктараў МВФ. Але яе прыняцце на Беларусі дасць магчымасць для непараўнальна большага супрацоўніцтва па лініі "стэнд-бай"... На думку Марка Хортана, макраэканамічная сітуацыя на Беларусі, акрэсленая ў прагнозах сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2001 год, адпавядае рэкамендацыям, якія прапаноўваў МВФ...

Таму будзем спадзявацца, што заходнія фінансавыя патокі ў хуткім часе даплывуць і да нашых "грэшных" берагоў.

**Алесь МЯСНІКОЎ.**



## КОРАТКА

**СЕТКА КОНСУЛЬСКІХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСІ ЗА МЯЖОЙ СЁЛЕТА БУДЗЕ ПАШЫРАЦЦА.** Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў знешнепалітычным ведамстве краіны, у бліжэйшы час плануецца адкрыць Генеральныя консульствы ў Мюнхене і Гамбургу.

А на базе пасольства Беларусі ў Славакіі ў хуткім часе пачне функцыянiраваць консульскі аддзел.

На гэты момант консульская служба Рэспублікі Беларусь прадстаўлена непасрэдна консульскім упраўленнем Міністэрства замежных спраў, 45 дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі і консульскімі ўстановамі ў 39 дзяржавах свету, а таксама пунктам у нацыянальным аэрапорце "Мінск-2".

**БЕСПРАЦОЎЕ СКАРАЧАЕЦЦА.** Колькасць беспрацоўных у краіне сёлета за першае паўгоддзе паменшылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 5,2 працэнта, паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу. На канец чэрвеня ў дзяржаўнай службе занятасці было зарэгістравана 91,9 тысячы беспрацоўных. Узровень беспрацоўя склаў 2 працэнты ад колькасці актыўнага насельніцтва. Па даных прадпрыемстваў і арганізацый, колькасць вакантных працоўных месцаў склала 50,9 тысячы, што на 4,1 працэнта больш, чым у маі. Як адзначаюць спецыялісты Мінстата, на свабодныя працоўныя месцы можна працаўладкаваць 55,4 працэнта беспрацоўных.

**МНОЖНАСЦЬ АБМЕННЫХ КУРСАЎ БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ ПРАКТЫЧНА ЛІКВІДАВАНА.** Такую заяву зрабілі Савет Міністраў і Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, гаворыцца ў заяве, у рамках рэалізацыі Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 2000 год прымаюцца меры па дасягненню ўстойлівасці беларускага рубля на ўнутраным і знешнім рынках, аднолены разлікі ў рублях па ўсім сектары экспартна-імпартных аперацый. Гэта стварае аснову для выканання беларускім рублём усіх функцый нацыянальнай валюты і стымулявання тым самым стаючых тэндэнцый у вытворчай і інвестыцыйных сферах дзейнасці суб'ектаў гаспадарання краіны, а таксама прытоку ў рэспубліку замежных інвестыцый у падтрымку эканамічных рэформ, выраўноўвання ўмоў дзейнасці суб'ектаў гаспадарання Беларусі і Расіі ў мэтах выканання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

Савет Міністраў і Нацыянальны банк заяўляюць, што і далей эканамічная, фінансавая і грашова-крэдытная палітыка краіны будзе накіравана на паступовае ўмацаванне даверу да нацыянальнай валюты і яе паэтапную стабілізацыю ў адносінах да расійскага рубля і валют іншых краін.

Тэрэза ХАЮЦІНА.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Рэдакцыя "Голасу Радзімы" шчыра дзякуе сваім сталым чытачам — сябрам Беларускага культурна-грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы і Васілю Сергіевічу з Кліўленда (ЗША) за добрыя водгукі і падтрымку. Спадзяёмся на сталае супрацоўніцтва.**

## ПАМЯЦЬ





● Аляксандр ТАЛОЧКА.

Летам 1944 года ў вёсцы Чорныя Броды Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці экіпаж танка лейтэнанта Дзмітрыя Камарова і механіка-вадзіцеля сяржанта Міхаіла Бухтуева таранiў фашысцкі бронепоезд. Тры бронеплатформы былі скінуты, бронепоезд страціў ход і быў дабіты нашай артылерыяй. За гэты подзвіг Камароў і Бухтуеў былі ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза.

На месцы подзвіга танкістаў адкрыты помнік. Ён узведзены па ініцыятыве першага намесніка міністра абароны, начальніка Галоўнага штаба генерал-лейтэнанта Міхаіла Казлова. Дапамогу ў будаўніцтве аказалі МУС, вытворчыя аб'яднанні "Ваўкавыскцэментшыфер", "Белшына".

НА ЗДЫМКАХ: генерал-лейтэнант Міхаіл КАЗЛОЎ уручае граматы воінам-будаўнікам; удзельнік Вялікай Айчыннай вайны жыхар вёскі Чорныя Броды Уладзімір ЯРАШ са сваёй жонкай на адкрыцці помніка.

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

Пачатак на 1-й стар.

у абавязкі якіх уваходзіць барацьба з наступствамі чарнобыльскай катастрофы: першы намеснік міністра па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя І. Войтаў, супрацоўнікі інстытута анкалогіі, прадстаўнікі прафсаюзаў і інш. А адбылася гэтая сустрэча дзякуючы намаганням беларускай нацыянальнай Пагуошскай групы і яе старшыні Юрыя Папова, Беларускаму таварыству міласэрнасці і Генеральнай дырэкцыі выставы "Ядзерныя трагедыі XX стагоддзя" ў асобе кіраўніка прадстаўніцтва ў Расіі фонду імя Факуборы спадарыні Тасіка Ёкоска.

Прысутныя прагледзелі фільм пра тое, якая навукова-даследчая праца вядзецца зараз на забруджаных тэрыторыях Беларусі. Абмяркоўваліся праблемы лячэння хворых на рак. Было адзначана, што наша краіна вядзе сістэмнае аздараўленне пацярпелых. Яны падлягаюць штогадоваму абследаванню, прафілактыцы і вітамінізацыі. Дзеці з забруджаных тэрыторый адпачываюць у летніх лагерах і санаторыях. У сувязі з гэтым прыводзіліся меркаванні беларускіх навукоўцаў аб карысці аздараўлення дзяцей на чыстых тэрыторыях Беларусі: дзіцяці няма патрэбы прызвычайвацца да кліматычных умоў, яму не патрэбны адаптацыйны перыяд. І ў выніку колькасць рэцыдываў, звязаных менавіта з акліматызацыяй, можа значна зніэіцца. Дарэчы, згадвалася, што будаўніцтва аднаго такога дзіцячага аздараўленчага цэнтра на 400 месцаў у хуткім часе пачнецца ў Раўбічах пад Мінскам. Нагадвалася, што 13 працэнтаў бюджэту краіны выдаткавана на вырашэнне праблем, звязаных з наступствамі Чарнобыля. Але ці дастаткова гэта сума, каб дапамагчы ўсім пацярпелым?

На сустрэчы была выказана думка, што Чарнобыль — не толькі боль адной Беларусі, гэта боль усяго свету, і толькі разам мы можам залячыць гэтую рану.

Юлія ВАНІНА.

## МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

# ГРАФА «НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ» АДСУТНІЧАЕ

Пытанне, што абнадзейвае і аб'ядноўвае беларусаў Малдовы, бадай, самае цікавае, бо гэта ўсведамленне сённяшняга дня. Некаторая ізаляванасць, немагчымасць без вялікай патрэбы выехаць за межы краіны накіравалі тутэйшых беларусаў на пошук нацыянальнага асяродку. Іх суполка ўзнікла ў 1993 годзе і з таго часу стала жыццёвай неабходнасцю. Зразумела, што далёка не ўсе нашы суайчыннікі адчуваюць патрэбу ў пастаянных зносінах адзін з адным. Тыя, хто мае змешаныя сем'і, у якіх захоўваецца нацыянальны малдаўскі каларыт, традыцыі, менш прагнуць гэтага...

Хаця ў пашпартах грамадзян Малдовы адсутнічае графа, дзе ўказваецца нацыянальнасць, вельмі важна тое, наколькі ты валодаеш дзяржаўнай мовай. А з 1989 года дзяржаўная мова ў краіне адна — малдаўская.

Пры сустрэчы старшыня Дэпартамента нацыянальных адносін і функцыянавання моў Тацяна Стаянава патлумачыла, што напачатку, вызначыўшы малдаўскую мову адзінай дзяржаўнай, сутыкнуліся з пэўнымі праблемамі. Трэба было лічыцца з тым, што ў краіне 35,5 працэнта насельніцтва карысталася толькі рускай мовай. Каб не нагнятаць яшчэ адну выбуховую сітуацыю, павялі справу больш мякка. Напачатку паспрабавалі арганізаваць для рускамоўнага насельніцтва курсы, дзе вялося навучанне, але выніку гэта практычна не дало.

Сёння ніхто ў Кішынёве не будзе рабіць вам заўвагу, калі пачуе рускую гаворку, аднак нямала людзей згубілі прэстыжную працу па гэтай прычыне. Дзяржаўная палітыка акрэслена дакладна: малдаўская мова павінна ўвайсці ва ўсе сферы жыцця...

Верагодна, па прычыне недасканалага валодання ёю нікога не звальнялі, але ў выніку ўсякіх рэарганізацый, ліквідацый вёўся зразумелы адбор. Так сталася з Лізаветай Сяліцкай. Яна скончыла Кішынёўскі дзяржуніверсітэт і Тэатральна-мастацкі інстытут у Мінску. Яшчэ не так даўно была даволі вядомым тэлерэжысёрам. Але ў адначассе паўрзат прэстыжных конкурсаў, яна апынулася ў ліку беспрацоўных і цяпер не мае ніякіх ілюзій наконт вяртання на тэлебачанне.

Так, у Кішынёве не прымушаюць карыстацца малдаўскай, у побыце па-ранейшаму часта гучыць руская, але калі нехта разлічвае на прэстыжную работу ў дзяржаўных структурах, без ведання дзяржаўнай мовы на працы не ўтрымацца. Але хутка авалодаць ёю на патрэбным узроўні не атрымліваецца.

Гэты канфлікт — адзін з самых распаўсюджаных сярод людзей старэйшага пакалення. І дзяржаўныя мужы стараюцца яго не абвастраць, а асноўную ўвагу накіроўваюць на навучанне маладых. Вывучэнне дзяржаўнай мовы ў школе абавязковае. Адначасова падтрымліваецца зацікаўленасць да вывучэння моў нацыянальных меншасцей у месцах іх кампактнага пражывання. Украінскія дзеці вывучаюць родную мову як прадмет у 77 школах, гагаузскія — у 49, балгарскія — у 33...

Аднак, як на гэты конт заўважыў у час гутаркі прэзідэнт краіны Петру Лучынскі, маладым неабходна пераадольваць стэрэатыпы, улічваць, што Малдова — еўрапейская краіна, і ў ідэале свабодна валодаць некалькімі мовамі, у тым ліку і еўрапейскімі. Тут прэзідэнт прывёў у прыклад 42-гадовага прэм'ер-міністра Думетру Брагіша, які прадстаўляе новую генерацыю грамадзян Малдовы.

Сёння ў Малдове шмат сумесных навучальных устаноў (у асноўным партнёрамі ў гэтай справе з'яўляюцца заходнееўрапейскія краіны), што дае магчымасць не толькі слухаць замежных выкладчыкаў, але і праходзіць стажыроўку за мяжой. Аднак гэтая плынь уцягвае не ўсіх. Дзеці з сем'яў, дзе ёсць беларускія карані, шукаюць іншыя перспектывы. Іх прываблівае магчымасць навучацца ў беларускіх ВНУ: тут даволі высокая якасць навучання і ёсць магчымасць застацца на этнічнай радзіме.

У практыцы ўзаемадзеяння Беларусі з дыяспарай гэта адна з найбольш моцных повязей. Штогод пэўная колькасць дзяцей з абодвух частак Малдовы паступае ў розныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Для суполак гэта вельмі адказны момант. Яны стараюцца падстрахаваць "сваіх дзяцей", садзейнічаць іх падрыхтоўцы. У прынцыпе, беларусы Малдовы, як і іншыя нацыянальнасці, маюць магчымасць арганізоўваць навучанне дзяцей у школах, адкрываць спецыяльныя класы, але на сённяшні дзень такіх няма. Тлумачэнне: беларусы не маюць кампактнага месцапражывання, і параўнанне, напрыклад, з колькасцю украінцаў, якіх тут 600 тысяч. Так што рэальна ў Кішынёве існуе толькі адна ініцыятыўная нядзельная школа, якую летась наведвала каля 40 чалавек.

Нядзельная школа трымаецца на энтузіязме настаўніцы Любові Чавусавай. Любоў Іванаўна дапамагае дзецям атрымаць веды па гісторыі краіны, беларускай мове, літаратуры. Заняткі праходзяць у беларускай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Гэты філіял муніцыпальнай бібліятэкі размешчаны ў адным з мікрараёнаў Кішынёва. Загадчыца бібліятэкі Нэлі Цішко — надзвычай энергічны і ўдумлівы чалавек — як можа, садзейнічае гэтай справе, прадаставіла вучням самы зручны пакой.

Яна не спасылаецца на фінансавыя цяжкасці, хаця балюча перажывае, паказваючы пустыя паліцы, дзе павінна мясціцца перыёдыка. З беларускіх выданняў тут толькі "Голас Радзімы". З-за адсутнасці сродкаў выпісаць звыклыя для чытачоў часопісы і газеты няма магчымасці, як і набыць усе неабходныя новыя кнігі. Аднак паліцы беларускага аддзела шчыльна застаўлены кнігамі, падабранымі з розумам. Ва ўсякім выпадку, калі звярнуцца да сцвярджэння, што чалавеку трэба прачытаць за жыццё пяць галоўных кніг, то тут беларускамоўны чытач, бадай, можа іх знайсці. Мне кінуліся ў вочы прозвішчы Максіма Багдановіча, Ларысы Геніюш, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Караткевіча, Якуба Коласа...

У выніку намаганняў настаўніцы Любові Чавусавай Беларусь замацоўваецца ў дзіцячай свядомасці, набывае рэальныя абрысы.

Але пра ўзаемаадносіны беларускай дыяспары з этнічнай радзімай размова ў наступным матэрыяле.

Наталля САЛУК.

*Мінск—Кішынёў—Тыраспаль—Бендэры—Мінск.*

Працяг. Пачатак у № 39.



ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ: ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

*Працяг вядомай фразы, сэнс якой заключаецца ў гульні слоў, прадугледжвае станоўчую альтэрнатыву: "свой сярод чужых". Але рэчаіснасць аказваецца такой, што нярэдка чалавек трапляе ў сітуацыю, калі адчувае сябе ізгоем усюды.*

*Праблема вымушанай міграцыі сёння шматаблічная. Але ў любым выпадку лёс складваецца не лепшым чынам і заводзіць чалавека ў тупік. Вось прыклад.*

*У змешанай шматнацыянальнай сям'і расло дзіця. Атрымала выдатную адукацыю, уладкавалася на прэстыжную працу, потым з'явілася сям'я...*

*Ну і што? — скажаце вы. Многія могуць пахваліцца незвычайнасцю генеалагічнага дрэва. Не здзівіш змяшэннем нацыянальнасцей у адной сям'і. Так, не дзіўна тое, што бацька ў хлопчыка родам з Закаўказзя, маці — руская, а жылі яны ў Кіргізіі. Але размеранае жыццё раптам растала. Прыйшлося пакінуць мясціны, якія сталі роднымі, і пусціцца на пошукі лепшай долі. Мой суразмоўца малады і моцны. Крыху сумны погляд і скептычная ўсмешка выдаюць яго ўнутраны стан. Ён ахвотна гутарыць і падтрымлівае любую тэму, аднак мімаволі сутнасць размовы вяртаецца да набалелага.*

# «ЧУЖЫ сярод СВАІХ...»

### МОВА ЗНОСІН

— Я не скажу, што мяне выганялі. Адносіны з калегамі па рабоце, суседзямі складваліся ўдала, я сябраваў з мясцовымі жыхарамі. Неяк рэзка стабільныя вытворчыя сувязі пачалі мяняцца, нават субардынацыя рабілася іншай, незразумелым чынам упітвала ў сябе нацыянальныя прыкметы. Усё больш змянялася справаводства: двухмоўе для вядзення дакументаў вялікай праблемай не было, але я стаў заўважаць, што ад мяне з'явіліся "сакрэты", не ўсе паперы мелі пераклад. Да таго ж некаторыя цяжкасці ў перагаворах пастаянна адцяснялі мяне на другі план. Адчуў, што раблюся лішнім.

У сваякоў складвалася не лепш, многія хутка згубілі працу. Сродкаў для існавання не хапала.

### ТЭРЫТОРЫЯ

— Трэба было ехаць. А куды? Вялікая дружная сям'я жыла разам. Праўда, на Каўказ, дзе засталіся сваякі па бацьку, запрашалі. Трэба было вучыць "родную" мову, якую не проста забыў, а не ведаў ніколі. Вучыць было позна, хаця сястра бацькі, паважаны прафесар, з'яўлялася аўтарам некалькіх перакладаў твораў нацыянальнай літаратуры на рускую мову. Каб ведаць тонкасці мовы не проста для жыцця, але і для кар'еры, якая ў адзін час рухнула, патрэбны быў не адзін год. (І на самай справе, мой суразмоўца гаварыў па-руску свабодна, нават з нейкім маскоўскім акцэнтам, з сакавітымі адценнямі інтанацый).

Тэрыторыя вялікая, а ехаць няма куды. Вы спытаеце, чаму не ў Расію? Спрабаваў. Магутны паток бежанцаў з былых савецкіх рэспублік абвастрыў без таго складаную сітуацыю ў Расіі. На мой погляд, становішча Беларусі больш стабільнае. Тут жыве дзіўны народ. Гэта пацвярджаюць лічбы і факты. Паглядзіце на вынікі апошняга перапісу насельніцтва рэспублікі — усё зразумееце. Двухмоўе ў гэтым адыграла немалую ролю. Пошукі пастаяннага месца жыхарства прывялі на Беларусь. Гэта была не першая спроба набыць прытулак, думаю, што не апошняя.

### СЯМ'Я

Па матэрыяльных і іншых меркаваннях давялося часова быць у разлуцы з сям'ёю. Уладкавацца аднаму прасцей. Пра ўз'яднанне сям'і пакуль што гаварыць рана. Хачу перавезці ўсіх, асабліва састарэлых, пра іх трэба клапаціцца. Успаміны пра сям'ю заўсёды выклікаюць сум. Магчыма, гэта выпрабаванне лёсу мае не толькі негатыўныя вынікі. Я адчуў каласальную адказнасць за жыццё блізкіх мне людзей. І гэты груз не дазваляе адступіць. Ім спадзявацца, акрамя як на мяне, няма на каго.

### ДАКУМЕНТЫ

Самы каварны бок гэтай гісторыі заключаецца ў легалізацыі. Я чуў, што ў Беларусі пражываюць прадстаўнікі больш як 100 нацыянальнасцей. Нават міністр замежных спраў не беларус. Думаў, што тут цэняць перш за ўсё дзелавыя якасці чалавека, а не яго паходжанне.

Прадставіў дакументы. Усё быццам бы ў парадку, але каўказскае прозвішча насцярожвала. Бюракраты (магчыма, іх абвінавачваць у гэтым несправядліва) чапляліся да кожнай дробязі, адцягвалі час, адмаўлялі. Што зробіш: "чэчэнскі след"... Я згодны, што пад некаторымі забаронамі ёсць падстава і боязь. Але мераць усіх адным аршынам нельга.

### ПРАЦА

Для падтрымання жыцця патрэбна была праца. Здагадваецеся? Я яе знайшоў. Маючы добрую адукацыю і вопыт, хацеў бы і мог зрабіць значна больш, прынесці карысць краіне і людзям, якія далі мне прытулак. Але адсутнасць неабходнага статуса "звязвае" мяне па руках і нагах.

Мне падабаецца на Беларусі, тут я бачу вялікую перспектыву для сваёй дзейнасці, асабліва ў параўнанні з тым, што бачыў у іншых суверэнных рэспубліках.

### ІМЯ

Ніколі не думаў, што сутыкнуся з сітуацыяй, у якой не змагу ганарыцца сваім прозвішчам. Імя і імя па бацьку рускія, і ні ў кога, з кім уступаю ў зносіны, мая персона не выклікае апаскі. Дык што ж, выходзіць, "чужым" аказаўся і сярод сваіх, і сярод чужых? Не думаю, што такая сітуацыя можа прайсці бясследна для мяне, для такіх жа, як я.

Мне гаварылі, што трэба даказаць сваё жаданне сумленна працаваць у гэтай краіне, вось я і даказваю. Гаварылі, што не трэба баяцца цяжкасцей, магчыма вывучэнне нацыянальнай беларускай мовы, але ці ў гэтым справа?

Гледзячы на жыццелюбівага, энергічнага, жадаючага дзейнічаць чалавека, цяжка было ўявіць, што яго энтузіязм разаб'ецца аб непрыступную сцяну фармалізму. Магчыма, не ўсё так проста, і не ўсё так сумна. Трохгадовы марафон завершыцца ўдала, сям'я ўз'яднаецца, усё наладзіцца.

Для некага гэты прыклад здасца не вельмі трагічным. Можна знайсці больш "круты". У гэтым заключаецца трагедыя простага чалавека, калі яго праблемы ў параўнанні з катастрофамі бачацца нязначнымі.

Можна гаварыць пра правы Чалавека, запісаныя ў міжнародных хартыях, прымаць да ўвагі цяжкасці, з якімі сутыкаецца любая дзяржава, прымаючы бежанцаў, разважаць пра праблемы эмігрантаў у нас і за мяжой. Але калі гэта здараецца з табою нечакана, усё бачыцца ў іншым свеце, таму што гэта тваё жыццё, лёс блізкіх табе людзей. Важна не застацца абыякавым, бяздушным, аднесціся да тых, хто стаў "чужым сярод сваіх" як можна ўважлівей, прыняць і зразумець іх праблему, як сваю ўласную. Падтрымліваючы тых, хто трапіў у нелегальны стан бежанцаў ці перасяленцаў, дапамагчы захаваць сваю годнасць. І не мае значэння, якое прозвішча чалавек носіць. Важна, каб кожны з нас адчуваў сваю паўнацэннасць.

**Алена КОНАНАВА.**

*Мінск.*

ЗДАРЭННІ

## НЕЛЕГАЛЫ Ў ТАЙНІКУ

Гэта здарылася каля вёскі Янышы Валкавыскага раёна. Міліцыянеры пры праверцы двух аўтафургонаў і легкавога "Мерседэса" з польскімі нумарамі ў адной з фур знайшлі восем грамадзян Шры-Ланкі і двух палякаў.

Затрыманыя былі дастаўлены ў райаддзел міліцыі. Праўда, вадзіцель "Мерседэса" ўцёк, кінуўшы свой аўтамабіль.

Зацікавіўшыся незвычайнасцю канструкцыі і памерамі аўтафургонаў, супрацоўнікі РАУС вырашылі дасканала іх агледзець. І ў адным з тайнікоў выявілі яшчэ восем жыхароў Шры-Ланкі.

Калі б перавозка нелегалаў праз мяжу прайшла гладка, перавозчыкаў на тым баку Буга чакала б пяцізначная сума ў амерыканскіх доларах.

Ланкійцаў, напэўна, дэпартуюць за межы Беларусі, а палякам прыйдзецца затрымацца. За ўсё трэба адказваць.

**С.К.**

НАВАСЕЛЛІ Ў КРЫЧАВЕ



● **Валерый БЫСАЎ.**

Працягваюць добраўпарадкоўваць жылыя кварталы ў Крычаве. Нядаўна ў мікрараёне Камсамольскі завяршыліся аддзелачныя работы ў 70-кватэрным доме маладзёжнага кааператыва. Рабочыя Магілёўскага домабудаўнічага камбіната, якія ўзводзілі будынак, паклапаціліся і пра навядзенне парадку каля дома, стварэнне зялёнай зоны.

АФІЦЫЙНА

# О БЕЖЕНЦАХ

## ЗАКОН РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

*(17.06. 1999)*

**Настоящий Закон определяет основания и порядок признания иностранного гражданина и лица без гражданства (далее — иностранцы) беженцами на территории Республики Беларусь, устанавливает экономические, социальные и правовые гарантии защиты прав и законных интересов беженцев, определяет основания лишения и утраты статуса беженца в соответствии с Конституцией Республики Беларусь, общепризнанными принципами и нормами международного права и международными договорами Республики Беларусь.**

**Статья 1. Законодательство Республики Беларусь о беженцах**

Законодательство Республики Беларусь о беженцах состоит из настоящего Закона и иных нормативных правовых актов Республики Беларусь.

**Статья 2. Основные понятия**

Для целей настоящего Закона применяются следующие основные понятия:

**беженец** — лицо, которое не является гражданином Республики Беларусь и находится на ее территории в силу вполне обоснованных опасений стать жертвой преследований в государстве своей гражданской принадлежности по признаку расы, религии, гражданства, национальности, принадлежности к определенной социальной группе или политических убеждений и которое не может либо не желает вследствие таких опасений пользоваться защитой этого государства; или лицо, которое, не имея определенного гражданства и находясь на территории Республики Беларусь вследствие подобных обстоятельств, не может или не желает вернуться в государство своего прежнего обычного местожительства в силу таких опасений;

**иностранец, ходатайствующий о признании его беженцем,** — иностранец, который находится на территории Республики Беларусь и заявляет о желании быть признанным беженцем по обстоятельствам, предусмотренным абзацем вторым настоящей статьи;

**место временного поселения** — место пребывания иностранцев, ходатайствующих о признании их беженцами или признаных беженцами, и членов их семей, не имеющих возможности самостоятельно поселиться на территории Республики Беларусь;

**убежище** — право иностранца, преследуемого в другом государстве за политические, религиозные убеждения или национальную принадлежность, пребывать на территории Республики Беларусь, которое может предоставляться Президентом Республики Беларусь;

**временное свидетельство о регистрации ходатайства** — документ, подтверждающий личность иностранца, ходатайствующего о признании его беженцем в Республике Беларусь, и его правовой статус в соответствии с положениями настоящего Закона;

**удостоверение беженца** — документ установленного образца, который подтверждает личность иностранца, признанного беженцем в Республике Беларусь;

**статус беженца** — правовое положение (совокупность общих прав, свобод, обязанностей и законных интересов) иностранца, признанного беженцем в Республике Беларусь, определенное нормами законодательства Республики Беларусь.

**Статья 3. Ограничения в действии настоящего Закона**

Положения настоящего Закона не распространяются на иностранцев:

в отношении которых имеются веские основания предполагать, что они совершили преступление против мира, военное преступление или преступление против человечества в определении, данном этим деяниям в международных актах, заключенных в целях принятия мер в отношении подобных преступлений;

в отношении которых имеются веские основания предполагать, что они совершили тяжкое преступление неполитического характера за пределами Республики Беларусь до прибытия на ее территорию, и которые ходатайствуют о признании их беженцами;

в отношении которых имеются веские основания предполагать, что они виновны в совершении деяний, противоречащих целям и принципам Организации Объединенных Наций;

за которыми компетентные власти государства, где они проживают, признают права и обязанности, связанные с гражданством этого государства;

пользующихся защитой либо помощью органов или учреждений Организации Объединенных Наций, кроме Управления Верховного Комиссара Организации Объединенных Наций по делам беженцев.

Настоящий Закон не распространяется также на иностранцев, покинувших государство своей гражданской принадлежности (своего прежнего обычного местожительства) по экономическим причинам либо вследствие голода, эпидемии или чрезвычайных ситуаций природного и техногенного характера.

**Статья 4. Предоставление Республикой Беларусь права убежища**

Порядок предоставления Республикой Беларусь права убежища определяется Президентом Республики Беларусь.

Решение о предоставлении иностранцам убежища в Республике Беларусь принимается Президентом Республики Беларусь.

**Статья 5. Органы государственного управления по вопросам беженцев**

Органами государственного управления, обеспечивающими реализацию политики в отношении беженцев, являются республиканский орган государственного управления по миграции и территориальные органы по миграции.

Республиканский орган государственного управления по миграции:

осуществляет руководство и контроль за деятельностью территориальных органов по миграции;

пересматривает при выявлении нарушений настоящего Закона решения территориальных органов по миграции в порядке, определяемом правительством Республики Беларусь;

получает в установленном порядке и передает в территориальные органы по миграции информацию о политической, социально-экономической, санитарно-эпидемиологической обстановке в государстве гражданской принадлежности (прежнего обычного местожительства) иностранца, хотадайствующего о признании его беженцем, а также информацию об изменениях паспортно-визового режима иностранных государств и о правилах пребывания иностранцев на территории Республики Беларусь;

Працяг будзе.

## НАТХНІЛІ ВАЙШКУНЫ



Фота БелТА.

Вайшкуны — невялікая вёсачка ў Пастаўскім раёне, на беразе маляўнічага возера Балдук, з катэгорыі "бесперспектыўных", што паціху паміралі. Другое жыццё ёй дала група мінскіх мастакоў, якія ацанілі па заслугах гэты самабытны край і размясціліся тут для адпачынку і творчай працы. У іх ліку Ягор Батальёнак, Віктар Маркавец, Мікалай Назарчук, Уладзімір Сулкоўскі і Аляксандр Шатэрнік. Кожны з мастакоў знайшоў свой падыход да раскрыцця непаўторнай прыгажосці гэтага дзіўнага кутка Беларусі. Іх творы — мастацкае абагульненне вобраза ўсёй Беларусі.

НА ЗДЫМКАХ: мастак Уладзімір СУЛКОЎСКІ; работы Ягора Батальёнка "Вяртанне"; Віктара Маркаўца "Стэфан Кабіцкі"; Уладзіміра Сулкоўскага "Вербная нядзеля".







## СПАДЧЫНА

# МІРСКІ МАТЫЎ «ЯМШЧЫКА»

Беларуска-польскі паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) нарадзіўся ў фальварку Смольгаў, што на Любаншчыне, 29 верасня 1823 года. Не вельмі доўгім быў яго жыццёвы шлях — усяго 39 гадоў, але пасля сябе ён пакінуў вялікую творчую спадчыну.

Гады маленства паэта прайшлі ў арандаваных бацькам фальварках Яськавічы цяперашняга Салігорскага раёна, а таксама на Капыльшчыне, Нясвіжчыне — з 1833 па 1835 год, Навагрудчыне — з 1836 па 1837 год, на Стаўбцоўшчыне. У. Сыракомля працаваў у нясвіжскай канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі з 1840 па 1844 год.

З Нясвіжам звязана і яшчэ адна важная для паэта падзея: у красавіку 1844 года ў Фарным касцёле ён узяў шлюб з Паўлінай Мітрашэўскай.

Апісанне любых яму мясцін перарастае ў лірычныя вершы, паэмы. Шырокаму колу чытачоў найбольш вядомыя вершы "Вясковы лірнік", "Немаўляці", "Добрыя весці", "Над Нёманам". З-пад пяра Сыракомлі выходзіць таксама шмат краязнаўчых артыкулаў і гісторыка-літаратурных нарысаў, даследаванняў, рэцэнзій і дарожных замалёвак, прац па фальклоры.

Пра самабытны талент Уладзіслава Сыракомлі чытач можа меркаваць ужо нават па першаму выступленню паэта ў друку — у часопісе "Атэнэум" № 6 за 1844 год, што выходзіў у Вільні, дзе пад крыптанімам NN, як і прасіў аўтар, была змешчана вершаваная гутарка "Паштальён", што ў скарочаным варыянце ў перакладзе Леаніда Трафалёва на рускую мову стала папулярнай песняй "Когда я на почте служил ямщиком". Гэта песня не што іншае, як пераўвасабленне знакамітага верша нашага суайчынніка. Гісторыя напісання песні такая: неяк, будучы ў Міры, Сыракомля зайшоў у карчму, дзе ад свайго кампанейца за куфлем піва пачуў гісторыю аб трагічным каханні паштовага фурмана. Яна так запала яму ў душу, што, прыехаўшы дамоў, ён неадкладна ўзяўся за пяро і, нічога не дадумваючы, напісаў верш...

Як ушанавана памяць пра Уладзіслава Сыракомлю на Беларусі?

У Нясвіжы, дзе ён вучыўся і некаторы час працаваў, ёсць вуліца, якая носіць яго імя. У тым жа Нясвіжы, у Фарным касцёле, дзе ў свой час вянчаўся паэт, на пачатку нашага стагоддзя была ўстаноўлена мемарыяльная шыльда ў яго гонар. А некалькі гадоў таму ва ўрочышчы Залучаля Жукава Барка паблізу таго месца, дзе калісьці знаходзіўся фальварак, у якім так плённа працаваў паэт У. Сыракомля, устаноўлены мемарыяльны знак у яго гонар.

Падрыхтаваў **Пётр ЖЭБРАК.**

## АСОБА Ў БЯЗМЕЖЖЫ ЧАСУ

# СЕНТЫМЕНТАЛЬНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ Ў МІНСК

● Здзіслаў НЯДЗЕЛЯ, *Польшча.*

**Сёлета спаўняецца 70 год з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА. Да гэтага юбілею Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў падрыхтавалі да друку кнігу "Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце". Яе ўкладальнік — загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс. Прапануем урыўкі з будучай кнігі. Аўтар першага з іх Здзіслаў НЯДЗЕЛЯ.**

Старыя запісныя кніжкі з каляндарыкамі дапамагаюць памяці ўзнавіць мінулае. Лаканічны запіс у стане ажывіць далёкія падзеі. Асабліва такое магчыма, калі ў сэрцы і думках пасяліліся дарагія постаці.

...З Уладзімірам Караткевічам і яго жонкай я пазнаёміўся на вячэрняй сябрыне ў гасціннай кватэры Адама Мальдзіса 11 ліпеня 1969 года. У Мінск я прыехаў тады па патрэбе сэрца, бо край дзяцінства дыктуе свае правы, яго нельга ні засланіць выдатнай архітэктурай іншага горада, ні замяніць зорным пейзажам гор, бо перад вачыма ўзнікае настальгічная зеляніна лясоў і палёў прыдзвінскага краявіду. Зразумела, няшмат я помню з той гаваркой сустрэчы, тэмпературу якой павышала чарка. За сталом, дзе прысутнічала каля дзесяці чалавек, вельмі цяжка было бліжэй пазнаёміцца з Караткевічамі. Акрамя таго, пасля больш чым дваццаці гадоў адсутнасці ў гэтым краі трэба было прызвычаіцца да забытай мовы... Дарагой памяткай таго вечара стаў том вершаў "Мая Іліяда" з прысвячэннем паэта.

Сапраўднае знаёмства і сяброўства адбыліся два гады пазней. Ведаючы, што Уладзіміру Караткевічу хочацца прыехаць у Польшчу, я запрасіў яго да сябе. Караткевіч з'явіўся ў Кракаве 25 лістапада 1971 года, напярэдадні 41-га дня свайго нараджэння. Так атрымалася, што гасцямі ў мяне тады былі таксама Стаян Субоцін, прафесар універсітэта ў Бялградзе, і Адам Мальдзіс, які вёў пошукі ў кракаўскіх бібліятэках і быў з намі ў сталым кантакце. Такім чынам, дзень нараджэння беларускага паэта мы адзначалі ў складзе чатырох асоб на маёй кватэры па вуліцы Марыі Ярэма. Валодзя здзівіў усіх нас веданнем сербскай і харвацкай літаратур. Сыпаў, як з рукава, анекдотамі і быў душой кампаніі — вельмі сціплай па колькасці, як на яго звычкі. Скардзіўся потым на недахоп кантактаў. Сапраўды, неяк не ўдалося забяспечыць яго цікавай кампаніяй. Помню, што я пазнаёміў яго з нашым вядучым русістам, прафесарам Рышардам Лужным, што мы ў Літаратурным кафэ размаўлялі з Юліянам Корнгаўсерам, след чаго можна знайсці ў яго авангардысцкай аповесці "Некалькі імгненняў" (Кракаў, 1975). Зразумела, мы наведвалі музеі, касцёлы, рэстараны, але ў асноўным мой госць самастойна знаёміўся з горадам, мяне ж абавязкі клікалі ва універсітэт. Валодзю захапляў каларыт Кракава. Яму імпанавалі архітэктура і мастацтва барока, мастацтва ж готыкі, якой я так захапляўся, адштурхоўвала яго чужасцю. Як прыгадваюць запісы, 28 лістапада мы разам былі ў Старым тэатры на п'есе "маладога раззлаванага" Джона Осбарна "Каханне і гнеў".

Аднак найбольш часу мы праводзілі ў размовах. На працягу трох тыдняў паспелі абмеркаваць шмат тэм. Я перш за ўсё слухаў. Валодзя, у якога сэрца было як на далоні, шчыра і маляўніча расказваў пра сваё дзяцінства ў Оршы, ваенную беспрытульнасць, вучобу ў Кіеве, падарожжа на Далёкі Усход, пра сваю дзівосную маці Надзею Васільеўну, з якой я потым пазнаёміўся асабіста, жонку Валю, пра асноўныя справы для кожнага чалавека. Калі гаворка заходзіла пра літаратуру, і я, як яе гісторык, спрабаваў вылучыць нейкія літаратурныя напрамкі і пісьменніцкія прыёмы, ён выказваў незадавальненне, бо для яго гэта былі абстрактныя словы. Ён лічыў, што ў аўтара або ёсць талент і што сказаць чытачу, або няма гэтых каштоўнасцей. А рэшта — гэта пустая гаворка. 17 снежня я правёў Валодзю на вакзал. Візіт у Польшчу ён завяршыў у Варшаве пад апекай свайго сардэчнага сябра з часоў вучобы ў Кіеве прафесара Фларыяна Няўважнага.

Са шматлікіх падарункаў, якія тады Валодзя прывёз мне з Мінска, трэба вылучыць два тамы рамана "Каласы пад сярпом тваім", якія павінны дачакацца перакладу на польскую мову. Менавіта дзякуючы гэтаму раману пра паўстанне 1863 года, Караткевіча часам называюць беларускім Сянкевічам.

Неўзабаве я бліжэй пазнаёміўся з Валянцінай Караткевіч, выдатным "амбасадарам" творчасці свайго мужа. Яна вельмі спадабалася ўсім маім сябрам. Валянціна прыязджала ў Польшчу па камандзіроўцы Акадэміі навук Беларусі. Спачатку была ў Варшаве, люты 1972 года правяла ў Кракаве (тут службова апекаваўся ёю вядомы гісторык мастацтва Тадэвуш Хшаноўскі), а ў сакавіку працавала ў Вроцлаве.

Сустрэчы і лісты ўмацавалі маё сяброўства з Караткевічамі. Па іх сардэчнаму настойванню і запрашэнню я прыехаў у Мінск 16 верасня 1973 года. Тут на працягу васьмі дзён я жыў вельмі інтэнсіўна, пазнаёміўся з горадам, паглядзеў музеі, быў у тэатры, які памятае яшчэ часы першай сусветнай вайны, зразумела, наведаў Мальдзісаў, пазнаёміўся са шматлікімі цікавымі людзьмі, а дзякуючы сяброўству Валодзі і Адама, удалося, спадзяюся, таксама пасябраваць з Рыгорам Барадуліным, які мне спадабаўся раней, чым я пачаў захапляцца яго вершамі.

У выніку сустрэч паміж Мінскам і Кракавам пачалі курсіраваць лісты і пасылкі. На паліцах у мяне павялічвалася колькасць кніг Валодзі, Адама, Рыгора, Валі, Вячаслава Рагойшы... Толькі ў мінімальнай ступені я мог аддзячыць ім за падарункі рэцэнзіямі і інфармацыйнымі нататкамі ў польскай прэсе.

Асабліва прыемна прыгадаць наступную сустрэчу з Караткевічамі: я запрасіў іх на два тыдні, і яны былі ў Кракаве з 1 па 14 кастрычніка 1977 года. Смешным быў пачатак іх прабывання: Валя прыехала ў футры, а ў нас тут бабіна лета, залатая і цёплая польская восень, усе ходзяць нават без плашчоў. Я тады добра пажыў, бо аказалася, што Валя разбіраецца не толькі ў мастацтве, але і ў кухні. Мы ўсе ўтрох аб'ядаліся смажанымі шампіньёнамі, запечанымі куранятамі і салатамі з памідораў. Валя выдатна варыла каву ў прывезенай "турцы", якая сёння нагадвае тыя добрыя часы.

Адразу ж, 2 кастрычніка, я пайшоў з Караткевічамі ў тэатр на "Мазепу" Юльюша Славацкага. Добра сыграны і з добрай сцэнаграфіяй спектакль вельмі спадабаўся маім гасцям. Потым мы выбраліся на амерыканскі фільм жахаў "Землятрус" — гэты жанр кіно быў тады вельмі модны, а стэрэагук і стэрэаскапічнае выяўленне вельмі ўразілі. Валя зацягнула нас у археалагічны музей, дзе найдаўжэй мы прыглядаліся да Светавіда (язычніцкага Бога Свету), які быў знойдзены 100 гадоў назад у Збручы. Былі, зразумела, розныя сяброўскія сустрэчы, нейкія знаёмыя Караткевічаў запрасілі маіх гасцей у Закапанэ, але горы былі няветлымі, бо дзень выдаўся шэры. У сваю чаргу, я прапанаваў паглядзець абстрактныя кампазіцыі Марыі Ярэма, патронкі маёй вуліцы.

Нягледзячы на ўсё ажыўленне, я тады заўважыў, што ў Валодзі не ўсё добра са здароўем. У кепскім яго стане я ўпэўніўся ў час нашай апошняй сустрэчы ў 1980 годзе, калі выкарыстаў дамову аб супрацоўніцтве Ягелонскага універсітэта з Беларускім дзяржаўным універсітэтам, каб пабачыць сяброў. Я быў тады ў Мінску з 18 да 22 красавіка. У бібліятэцы пазнаёміўся з выдатным беларускім штотыднёвікам "Наша ніва", але час у асноўным праходзіў у асяроддзі Караткевічаў, Мальдзісаў і Барадуліных. Ацаніў раскошу караткевічаўскага стала (таксама добра яго ўспамінае мой універсітэцкі калега, славіст-арыенталіст Станіслаў Стахоўскі, якога я рэкамендаваў маім сябрам). Але я павёз з Мінска таксама шмат мастацкіх і інтэлектуальных уражанняў: больш падрабязна азнаёміўся з самымі старымі кварталамі горада, з даўнейшай каталіцкай катэдрай; прыемна мне было зноў паглядзець мастацкі музей, экспазіцыю, прысвечаную апошняй вайне — самай жорсткай на беларускіх землях. Вялікае ўражанне пакінула паездка ў Хатынь. Гукі званоў, што нагадвалі пра пакутніцкую смерць жыхароў гэтай вёскі, кранаалі да глыбіні.

Самай вялікай атракцыяй у той час у Мінску быў фільм "Дзікае паляванне караля Стаха" па матывах аповесці Уладзіміра Караткевіча. Дзякуючы пратэкцыі аўтара, мне і Стахоўскаму пашанцавала паглядзець гэтую неардынарную, прыгожую кінастужку.

Час праляцеў хутка, я вярнуўся ў Кракаў. Пачатую тады дыскусію наконт малых літаратур мы працягнулі ў лістах... Неўзабаве Адам паведаміў мне, што Валодзя знаходзіцца ў бальніцы. Потым Валянціна перанесла аперацыю. А праз невялікі прамежак часу я атрымаў самыя горшыя весткі... Засталіся толькі ўспаміны і кнігі, у якія столькі чалавечай цеплыні і любові да роднай зямлі ўклаў Уладзімір Караткевіч.

*(Пераклад з польскай мовы).*



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»







# «ЗВОН НАГАСАКІ»

Пачатак на 1-й стар.

народу звон, каб ён сваім гучаннем заклікаў да супрацоўніцтва дзеля міру, — сказаў настаяцель храма Сіеці Мімура. — Няхай сонца над вамі ніколі не закрываецца ядзернымі хмарамі, а ваша жыццё будзе паўнацэнным". На ўрачыстым адкрыцці помніка прагучалі пасланні ад мэраў гарадоў Хірасімы і Нагасакі, а таксама архіепіскапа, старшыні ўсіх каталіцкіх цэркваў у Японіі.

Японію і Беларусь зблізіла агульная бяда. Атамная бамбардзіроўка японскіх гарадоў і чарнобыльскі выбух прынеслі аднолькавыя захворванні. Пасля выбуху на ЧАЭС на Беларусь легла 72 працэнты ўсіх выкідаў. Некаторыя даследчыкі параўноўваюць іх магутнасць з сотнямі атамных бомбаў, якія былі скінуты на Хірасіму і Нагасакі.

Вынікі мы бачым сёння: пачынаючы з 1986 года, на Беларусі ў два разы зменшылася нараджальнасць, працяглась жыцця людзей старэйшага ўзросту. Звон-блізнец, падобна свайму японскаму брату, будзе званіць на галоўнай плошчы Мінска як напамін пра ахвяры ядзернай зброі.

**Марыя МАЛІНОЎСКАЯ.**
**Фота БелТА і Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ДВА ЛЁСЫ АДНАГО КАСЦЁЛА

*Лета. Пара адпачынкаў і канікулаў. Вось і я паехаў на лета ў вёску Бабовішчы Слуцкага раёна. Яна нічым непрыкметная, а вось у суседняй вёсцы Замосце ёсць касцёл, які пабудаваны яшчэ ў XVII стагоддзі. Я зацікавіўся і вырашыў даведацца пра яго як мага больш. Прагледзеў энцыклапедыю "Архітэктура Беларусі", распытаў старажылаў вёскі і вось што высветліў.*

*У 1620 годзе Андрэй Самуіл Вінкі-Ратамскі, які зрабіў столькі дабра, што лічыўся святым, пабудаваў у вёсцы Замосце Слуцкага павета касцёл.*

*З таго часу прайшло шмат гадоў, а ў вёсцы Замосце і па сёння ўзвышаецца касцёл Святой Барбары. Шмат войнаў і нашэсцяў бачылі каменныя сцены касцёла. У XVII стагоддзі тут была місія езуітаў, у 1865 годзе цар Аляксандр II сваім загадам размясціў тут праваслаўную царкву. Але народ, які многа гадоў хадзіў у каталіцкі касцёл, не пажадаў мяняць веру. Царкве было суджана размяшчацца тут толькі 50 гадоў. Для касцёла гэта няшмат, усяго адна сёмая яго гісторыі. У 1917 годзе ўсталявалася новая ўлада, і сяляне, якія не здрадзілі сваёй веры, пажадалі вярнуць сваю рэлігію ў свяшчэнныя сцены касцёла. Бацюшка нічога не мог зрабіць, бо большасць жыхароў навакольных вёсак былі католікамі, і добраахвотна перадаў ключы ад касцёла ксяндзу.*

*Але нядоўга было наканавана касцёлу жыць спакойна. Пасля другой сусветнай вайны ён застаўся без гаспадара: спачатку калгас, потым школа пераўтварылі яго ў складское памяшканне. І толькі ў 1986 годзе касцёл ачысцілі ад хламу. Чатыры гады ён быў без гаспадара. А ў 1990-м у касцёл прыехаў новы ксёндз. Вось ужо 10 гадоў, як Антон КОЧКА вядзе службы і сочыць за парадкам у касцёле Святой Барбары. З ім наша сённяшняя гутарка.*

— Я нарадзіўся 1 кастрычніка 1928 года ў мястэчку Чарноўчыцы, што пад Брэстам. У 1956-м скончыў духоўную семінарыю ў Польшчы і з таго часу вось ужо 44 гады служу Богу.

— *Як вы апынуліся ў замосцкім касцёле?*

— У пачатку 90-х гадоў з Польшчы ў Беларусь прыбыла група ксяндзоў, сярод якіх быў і я. Усе мы раз'ехаліся хто куды, і воляю Бога я апынуўся ў касцёле Святой Барбары. Касцёл прыняў у жудасным стане: усё было паламана і разрабавана. А некалі ж тут быў алтар работы вядомага майстра Сымона Чаховіча. За гэтыя дзесяць гадоў касцёл прыведзены ў належны стан.

— *Як часта ў касцёле праходзіць служба?*

— Адзін раз на тыдзень у нядзелю, бо я праводжу службы яшчэ ў двух касцёлах у вёсках Лянькі і Вынісцы.

— *Каму вы падпарадкоўваецеся?*

— Начальнік для мяне Бог. Ну а ў свеце нада мною стаіць біскуп, якому падпарадкоўваюцца ксяндзы з пэўных прыходаў.

— *Ці даводзілася вам бачыць папу рымскага?*

— Так, такое шчасце напаткала мяне. Як вы ведаеце, у папы рымскага Іаана Паўла II 18 мая быў юбілей — 80-годдзе. З гэтай нагоды ў Рым былі запрошаны ксяндзы з усяго свету. Прыйшло запрашэнне і да мяне. Я не ўпусціў выпадку на свае вочы пабачыць Уладыку. У Рыме мы пабывалі ва ўсіх святых месцах і сустракаліся з папай. Пасля паездкі ў мяне засталося шмат сувеніраў. Ёсць і фотаздымак з яго подпісам. Такія фотаздымкі атрымалі ўсе ксяндзы, што прыехалі на свята, а гэта 7 000 чалавек. Колькі прыемных уражанняў ад гэтай паездкі!

— *Вялікі дзякуй, Антон Янавіч, за размову, я рады, што вы згадзіліся пагутарыць са мною.*

— Беражы вас Бог.

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА, вучань 126 СШ, г. Мінск.**

## У ГОНАР 2000-годдзя ХРЫСЦІЯНСТВА




У паштовае абарачэнне ўведзена серыя з трох марак, на якіх — праваслаўныя храмы Беларусі: Спаса-Праабражэнская царква XII стагоддзя ў Полацку, сабор у імя Святога Архістраціга Міхаіла XVIII—XIX стагоддзяў у Слуцку і царква ў імя Прападобнага Серафіма Сарокіна ў Белаазёрску.

*БелТА.*

# ЗА МАНАСТЫРСКАЙ СЦЯНОЙ

Памятаеце караля з фільма "Папялушка", які, калі яму пярэчылі, крычаў: "Іду ў манастыр! Зараз жа!" Няўжо за манастырскай сцяною знікаюць адразу ўсе жыццёвыя праблемы? І галоўнае — навошта дзяўчаты і маладыя яшчэ жанчыны свядома ідуць у пустэльніцтва?

Ефрасінні Полацкай, першай ігуменні і заснавальніцы жаночага манастыра на Русі, ужо няма на зямлі 826 гадоў. Але ціхі прыстанак, дзе дзень і ноч просяць святую Ефрасінню заступіцца за нас там, у горных вяршынях, па-ранейшаму існуе. Тут, як і шмат стагоддзяў назад, прымаюць прыхаджан з усімі іх праблемамі, бедамі і хваробамі. Правядзём і мы адзін дзень за манастырскімі сценамі...



Цяперашняя ігумення Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра Анфіса сустрэла нас трошкі насцярожана. Яно і зразумела: кароткае знаёмства не схіляе да шчырасці.

— Прыходзяць да нас толькі з сапраўднай вераю. Крыўда, расчараванне, бяда, жыццёвыя цяжкасці, асабістыя драмы ў манастырскіх сценах не ўтрымаюць. Трэба будзе сябе праверыць і выпрабаваць, а гэта не кожнаму дадзена. Бо для манашкі ўсё асабістае як бы памірае. Яна жыве для Бога і для людзей. Служыць ім заўсёды і ўсюды. Новенькія ў паслушніцах па тры гады ходзяць або і больш. Пераход са свету ў пустэльніцтва павінен прайсці паступова. На ўсё трэба час, цярпенне і разуменне. Чалавека нельга няволіць і ламаць. Ён народжаны свабодным.

Сама матушка прыйшла ў манастыр, калі палічыла, што завяршыла свецкія справы. Пахавала бацькоў, ажаніла братоў. Пад дахам манастыра пражываюць жанчыны розных узростаў — ад 18 да 86 гадоў. Прымаюць сюды да 50 гадоў. Моцная і добрая сям'я атрымліваецца. Шэсцьдзесят насельніц свята шануюць і выконваюць манастырскі статут. Галоўная справа манашкі — малітвеная, але моліцца яна не аб сабе, а аб усіх і ўся. Чорная раса ўбірае ў сябе ўвесь смутак свету, а лік той, што яго носіць, павінен адорваць усіх спакоем і боскай ласкаю. Манашка — гэта душа жывога чалавека, завочна закліканая Госпадам.

Манастыр закрывалі і адкрывалі. Восем гадоў назад адбылося яго апошняе адкрыццё. Больш за дзесятак старажылаў з жыровіцкага манастыра пераехалі ў Полацк адраджаць старэйшы манастыр, дзе жылі... сем'і алкаголікаў. У забудове не знайшлося ніводнай цэлай рамы або дзвярэй, як пасля татара-мангольскага набегу. Чарніцы і паслушніцы шмат працавалі, каб наладзіць манастырскую гаспадарку. Стварылі свае швейныя, іканапісныя, свечныя майстэрні.

Пад'ём у 6.30. Малітва, служба, снеданне і за працу. Работа выконваецца да таго часу, пакуль не будзе прынята старшай манашкаю, па нашаму разуменню, на "выдатна". Калі новенькая праходзіць усе этапы паслушання, ёй даручаюць тую справу, у якой яна прынясе больш карысці.

Цікавімся: "А што вы робіце з неслухамі, прызначаеце пакаранне?"

— Мабыць, начыталіся раманаў, дзе такіх на хлеб-ваду — ды ў халодны пакой... Не, з імі гутарым, павучаем, просім старанна кланяцца і маліцца, пакуль дух гордасці не адступіць. І ўсё.

А вось што расказалі сёстры:

— І ў свеце беларучкамі не лічыліся. Але калі паглядзелі, як тут прасуюць бялізну, мыюць яе, пякуць, займаюцца саленнямі, шыюць, — зразумелі, у чым розніца. Дома можна было сабе ў нечым паслабленне даць, а тут усё строга.

Самы любімы занятак у сясцёр усіх узростаў — царкоўнае песнапенне. Слухаеш іх — быццам анёлаў нябесных. Але вось у спевы ўварваўся гук званочка — так сясцёр тройчы ў дзень запрашаюць у трапезніцу. Праз саборную плошчу з розных бакоў яны няспешна ідуць сталавацца. Адразу можна адгадаць тых, хто манаскае адзенне прымерыў нядаўна, — крочыць шырока, размахваючы рукамі. Тыя, што не першы год тут, — паважныя і нетаропкія, рукі паверх расы знаходзяцца. Гэтаму адразу не навучышся, але за год манаскую навуку адужаць можна. Галоўнае — вера, жаданне, цярпенне і пакорлівасць. На доўгіх сталах — хлеб, квашаная капуста, салёныя агуркі, памідоры, свежыя яблыкі, суп, каша, бурачны квас, рыба. Тут строга прытрымліваюцца пастоў і не ўжываюць у ежу мяса. Стравы смачныя, апетытныя. Адчуваецца: прыгатаваныя з любоўю.

Употай разглядаючы манашак, адзначаеш: чым больш гадоў правяла жанчына ў манастыры, тым складаней вызначыць яе ўзрост. Скура твару здаровая, чыстая, без маршчын, у вачах — жывы бляск. У чым сакрэт маладосці?

— Людзі — тыя самыя парваныя мяхі, пра якія гаварыў Хрыстос, колькі ні лі на іх боскай ласкі, лепшымі не будуць, пакуль не падрыхтуюць цялесны посуд для прыняцця яе. Даецца гэта малітвай, пакаяннем і жаданнем пазбавіцца ад многіх недахопаў.

...Каля ра́кі, у якой знаходзяцца мошчы Ефрасінні Полацкай, дзень і ноч гарыць лампада. Гэта месца ўсіх паломнікаў, якія моляцца і выціраюць міласэрныя слёзы. Зноў на месцы крыж Ефрасінні: копію згубленай каштоўнасці пяць год рабіў брэсцкі мастак Мікалай Кузьміч, і ад новага крыжа таксама ідуць нябачныя токі — сведчанне "Боскай ласкі", па словах Мітрапаліта Філарэта. Усё тут настройвае на збаўленне і душэўнае вылячэнне...

**Святлана БАРАННІКАВА.**

ГАСЦЁЎНЯ

**Нягледзячы на досыць нялёгкія ўмовы, што складваюцца зараз у галіне айчыннай навукі, беларусістыка як яе асобны накірунак мае працяг і папаўняе скарбніцу каштоўнай і, па-цяперашняму кажучы, эксклюзіўнай даследчыцкай інфармацыі. Сведчанне таму — навуковая і выдавецкая дзейнасць Скарынаўскага цэнтра, а таксама Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, кангрэсы якой рэгулярна праводзяцца на працягу некалькіх гадоў. Дарэчы, ганаровы міжнародны статус асацыяцыі — не проста прыгожая назва: сярод яе актыўных членаў, сапраўды, прадстаўнікі дзесятка краін свету. Сярод іх Мікалай НІКАЛАЕЎ, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, наш зямляк. Ён нарадзіўся ў Шчучыне, рос і гадаваўся ў Навагрудку.**

# Мікалай НІКАЛАЕЎ: «БЕЛАРУСІСТЫКА АДКРЫЦЦІ, ДАЕ НОВУЮ

— ***Спадар Нікалаеў, якая ж сцяжына прывяла вас са сціплага правінцыяльнага беларускага Навагрудка ў сталічны імперскі расійскі Санкт-Пецярбург?***

— Усё атрымалася проста. У Навагрудку дзейнічала археалагічная экспедыцыя з Ленінграда. І я яшчэ школьнікам працаваў там рабочым на раскопках. Пасля паступіў ва універсітэт у Мінску, вучыўся на археолага, а потым паехаў у Ленінград — сваім ходам. Тады гэта цяжка было, але магчыма: хацеў уладкавацца ў тую навагрудскую экспедыцыю. Але ў інстытуце археалогіі не знайшлося вольнага месца. Мне сказалі: "Папрацуй дзе-небудзь, пакуль вакансія адкрыецца". Так я прыйшоў у Расійскую нацыянальную бібліятэку, дзе і да сёння працую. У бібліятэцы аказалася вельмі цікава, там я ўбачыў кнігі тых самых часоў, што мы рабілі раскопкі: у Навагрудку ўсё разбуранае і спаленае, і раптам жывыя кнігі! Я напісаў дзве дысертацыі пра гэтыя кнігі і зараз з задавальненнем працую далей.

— ***Ваша навуковая тэматыка трымаецца беларускай плыні ці беларускі раздзел толькі спадарожнічае нечаму іншаму?***

— Мая навуковая тэматыка — толькі беларуская, хаця я загадчык аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі: гэта пяць з паловай тысяч назваў усіх расійскіх газет — велізарная пошта і такая ж велізарная бібліяграфія. Раней мы мелі абавязковы экземпляр усіх газет Савецкага Саюза, і "Голас Радзімы" таксама. Ён у нас ёсць. Мы і зараз яго атрымліваем, я рэгулярны чытач вашай газеты і стары аўтар штотыднёвіка: упершыню надрукаваўся яшчэ ў 1975 годзе. Увогуле імкнуся сачыць за газетамі, і, на мой погляд, "Голас Радзімы" нельга назваць сярэдняй газетай: гэта добрая газета.

— ***Дзякуй, але давайце вернемся да вашай навуковай працы. На чым яна канцэнтруецца галоўным чынам?***

— Гісторыя кнігі, у прыватнасці рукапіснай, пошук рукапісаў. Пазней дадалася гісторыя друкаванай кнігі і таксама пошук невядомых выданняў. Удаецца штокольвечы і знайсці. Адкрыццё мінулага года — кніжка, надрукаваная ў XVIII стагоддзі на беларускай мове, але лацінскім алфавітам. Вельмі рэдкая рэч. Дарэчы, мне здаецца, такі варыянт друкавання — лацінкай — сёння даволі актуальная з'ява: па-першае, частка беларусаў жыве ў краінах панавання лацінскага алфавіта (скажам тыя ж беластоцкія беларусы ў Польшчы), а па-другое, такі сучасны від сувязі, як Інтэрнэт, вельмі часта патрабуе перапіскі лацінкаю, бо многія машыны не чытаюць кірыліцу. Я з гэтым сутыкнуўся асабіста пры перапісцы з маім навагрудскім земляком, які зараз жыве ў Аўстраліі. Ну а пачаць, што карыстанне на Беларусі лацінскім алфавітам — традыцыя старая, што гэта нармальна, магу на гістарычным матэрыяле. У зборніку Адама Мальдзіса нават надрукаваў спецыяльны навуковы артыкул, але тыраж невялікі, таму ён маладасягальны.

Хутка з'явіцца мая кніжка — "Друкаваная прадукцыя Вялікага княства Літоўскага", дзе пойдзе размова і пра лацінку на Беларусі. Выходзіць кніга ў Мінску, і я з задавальненнем яе прэзентую. Адной з задач, што ставіліся пры падрыхтоўцы, было сабранне як мага большай колькасці ілюстрацый, бо мастацтва — сапраўдны крытэрый ісціны. У кніжцы будзе шмат ілюстрацый: вельмі прыгожых гравюр, мініяцюр, шрыфтоў — усё гэта наш набытак, наша спадчына.

— ***Такім чынам, сапраўды, ваш навуковы клопат тут, на Беларусі.***

— І ў Расіі, канешне, таксама. Я лічу сваім абавязкам павелічэнне інфармацыі пра Беларусь у Расіі.

— ***Там гэта патрэбна?***

— Патрэбна. Больш таго, зараз у Пецярбургу — даўно ішлі размовы — нарэшце стварылі цэнтр беларусістыкі, падобны на маскоўскі. Ён заснаваны ва Усходнеславянскім еўрапейскім універсітэце, дзе рыхтуюць спецыялістаў для работы з краінамі СНД і былога Варшаўскага дагавора, і я — кіраўнік гэтага цэнтра.

— ***Ці даводзіцца дзе-небудзь яшчэ, акрамя Беларусі, ужываць беларускую мову?***

— З дзецьмі дома па-беларуску размаўляю. Хаця жонка — руская. Дзеці чытаюць беларускія кнігі. І я з радасцю для сябе канстатую: ім усё роўна, на якой мове чытаць — рускай, беларускай, абы цікава было.

Калі мы ўжо закранулі малодшае пакаленне, скажу: мне асабіста падалося, што на кангрэсе беларусістаў магло б быць больш моладзі. Я і сябе не адношу да старых — мне 45 год, але хацелася б, каб за маёй спіной стаяла больш маладзейшых за мяне. Хаця... Можа на кангрэс збіраюцца масцітыя — таму такое ўражанне...

— ***Якая ўвогуле ваша ацэнка работы кангрэсаў, самой МАБ?***

— Я быў сярод заснавальнікаў кангрэса і браў удзел ва ўсіх яго пасяджэннях, у тым ліку і першым у Варшаве, калі, уласна, і стваралася Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Усё адбывалася на маіх вачах.

Паглядзіце, Беларуская акадэмія навук плюс Белдзяржуніверсітэт выдаюць менш прадукцыі, чым Скарынаўскі цэнтр і МАБ. Сапраўды так! І я, як бібліятэкар, вам скажу, што "Весткі акадэміі", "Веснік універсітэта" амаль ніхто не ведае, а 15 тамоў "Альбарутэнікі" Адама Мальдзіса ва ўсім свеце вядомыя. І гэта вялізны прагрэс! Крыўдна за Акадэмію навук, за Белдзяржуніверсітэт: там кваліфікаваныя кадры, выдатныя навукоўцы, але няма сістэмы, якая б выводзіла плён іх працы так добра, як гэта робіць Скарынаўскі цэнтр.

Ведаеце, у беларусістыцы адразу вельмі высока паднялі навуковую, даследчыцкую планку, і пакуль яна трымаецца. Абставіны заўсёды бываюць няпростымі, заўсёды не хапае грошай, цяжка надрукаваць кнігі, асабліва з ілюстрацыямі, бо яны дорага каштуюць. Але людзі купляюць кнігі, людзі чытаюць кнігі, толькі б тыя не былі пустымі. Беларусістыка ж робіць адкрыцці, дае новую інфармацыю.

— ***Такім чынам, як бы вы вызначылі месца беларусістыкі ў агульным рэчышчы славяназнаўства?***

— На фоне славяназнаўства беларусістыка — адна з прыкметных і важных дзялянак, дзе ёсць усё: гісторыя музыкі, гісторыя кнігі, гісторыя мастацтва... На добрым прафесійным узроўні ў гэтых галінах працуюць і людзі.

— ***А як вы ставіцеся да таго, што сёння ў беларускай мове, асабліва ў правапісе, у адрозненне, відаць, ад той жа рускай, утварылася значная неразбярыха: ці не кожны піша так, як яму падабаецца, як сам лічыць правільным і патрэбным?***

— І ў рускай мове не ўсё проста. Тут таксама была магутная плынь — яна яшчэ не скончылася — вяртання да старой арфаграфіі: з "яцямі" і гэтак далей. Але адпрацаваная расійская культура лёгка патушыла такі ўсплёск. Беларуская ж мова і раней стаяла нямоцна, таму стаўся значны разбег меркаванняў, таму і такая горкая доля настаўнікаў беларускай мовы. Прыгадваю скаргі знаёмай настаўніцы: маўляў, тлумачу дзецям правілы, а потым бяру цікавую, разумную па зместу газету, дзе пішуць зусім па-іншаму.

Пакуль беларуская дзяржава не ў стане зрабіць пэўны від правапісу абавязковым. З другога боку, і моц культуры не настолькі вялікая, каб узяць ды перайсці да таго ж мяккага знака паміж зычнымі... Вось і працягваецца змаганне і палітыкаў, і культуры, і народа са сваёй мовай.

На мой погляд, Беларусі неабходна энергічная праца тэрміналагічнай камісіі ў розных галінах і кадыфікацый таго, што гэтая камісія будзе напрацоўваць. А далей трэба прасіць усе рэдакцыі трымацца прынятага — прасіць своеасаблівай нацыянальнай згоды.

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ



У Мінску прайшла двухдзённая сустрэча партнёрскіх арганізацый: Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і таварыства "Польшча — Усход", а таксама таварыстваў "Беларусь — Польшча" і "Польшча — Беларусь".

У склад польскай дэлегацыі ўвайшло дзесяць чалавек. Сярод гасцей былі старшыня таварыства "Польшча — Беларусь" Баляслаў Хмяліньскі, прадстаўнікі рэгіянальных таварыстваў з Лодзі, Варшавы, Гданьска, Беластока, Зялёнай Гуры — Барбара Твардош, Фларыян Няўважны, Раман Курнатоўскі, Віктар Швед, Зыгмунт Стаброўскі.

Ад таварыства "Польшча — Усход" у сустрэчы ўдзельнічалі старшыня Стэфан Наўрот і генеральны дырэктар Януш Вітак. Таварыства "Польшча — Усход" ставіць сваёй мэтай ўсталяванне сяброўскіх адносін, узаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж грамадскасцю Польшчы і краін, якія знаходзяцца за ўсходняй мяжой Польшчы; распаўсюджванне аб'ектыўнай інфармацыі, пераадоленне ўзаемных прадузятых меркаванняў і гістарычных супярэчнасцей, якія ўскладняюць міжнародныя адносіны.

Мэта сустрэчы — пашырэнне дзейнасці таварыстваў.

НА ЗДЫМКУ: Леанід ЛОЙКА, старшыня таварыства "Беларусь — Польшча", Януш ВІТАК, генеральны дырэктар таварыства "Польшча — Усход" і Баляслаў ХМЯЛІНЬСКІ, старшыня таварыства "Польшча — Беларусь".

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

## ДАР ПРЫВАТНАГА КАЛЕКЦЫЯНЕРА

**Летась у памяшканні Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея была разгорнута выстава рэчаў прыватнага калекцыянера Міколы Паўловіча. Гэта не першая выстава прыватных збіральнікаў даўніны з Латвіі, але яна асаблівая тым, што складалася з экспанатаў, якія ўладальнік падарыў нашаму музею.**

Мікола Паўловіч жыве ў Даўгаўпілсе, але паходзіць з Беларусі. Ён нарадзіўся ў 1956 годзе ў мястэчку Карэлічы, што на Гродзеншчыне. У бытнасць СССР атрымаў адукацыю гісторыка ў Латвійскім дзяржаўным універсітэце. Цяпер Мікола працуе не па спецыяльнасці, аднак захаваў цікавасць да гісторыі, краязнаўства, збіральніцтва старых рэчаў. Ён падтрымлівае сувязі з шэрагам беларускіх даследчыкаў, цікавіцца навінкамі літаратуры па гісторыі Беларусі, сам збірае матэрыялы па гісторыі беларусаў у Латвіі. Актыўны ўдзельнік беларускага таварыства ў Даўгаўпілсе, з'яўляецца дэлегатам з'ездаў беларусаў свету ў Мінску.

М. Паўловіч даволі часта бывае на Браслаўшчыне. Тут у вёсцы Ахрэмаўка жывуць бацькі яго жонкі Вольгі. Так што частку сваёй даволі вялікай калекцыі Мікола збіраў на Браслаўшчыне.

Першае знаёмства з М. Паўловічам супрацоўнікаў музея адбылося ў 1995 годзе. Тады ён падарыў музею пазалочаны медны віцмундзірны гузік пачатку XIX стагоддзя. Гэта сустрэча стала пачаткам трывалага супрацоўніцтва, цікавага для абодвух бакоў. Неўзабаве Мікола перадаў у музей шэраг рэчаў, знойдзеных на месцах былога маёнтка, дакументы, побытавыя прадметы з розных вёсак Браслаўшчыны. За чатыры гады М. Паўловіч перадаў музею больш за 500 разнастайных экспанатаў. Сярод іх — манеты, папяровыя грошы, паштоўкі, дакументы, кнігі, газеты і гэтак далей. Адметна тое, што паступова Мікола стаў дапамагаць музею збіраць гістарычны матэрыял — у прыватнасці, да зборнікаў "Браслаўскія сшыткі".

У 1997 годзе ён выступіў на канферэнцыі "Браслаўскія чытанні" і падарыў музею вельмі рэдкую манету — 10 грошай, якая была адчаканена ў 1831 годзе паўстанцамі ў Варшаве. У красавіку гэтага ж года на чарговай канферэнцыі выступіў з дакладам, прысвечаным вядомым выхадцам з Браслаўшчыны, якія жывуць у Латвіі. М. Паўловіч — сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства, якое дзейнічае пры музеі.

Некаторыя прадметы, падораныя музею Паўловічам, знайшлі сваё месца ў стацыянарнай экспазіцыі музея, іншыя ж папоўнілі фонды. Яны экспануюцца на часовых выставах. Напрыканцы мінулага года музей выстаўляў калекцыю бутэлек XIX—XX стагоддзяў, ці не палова якой складзена з дапамогай М. Паўловіча. (У музей ён перадаў звыш 150 старадаўніх бутэлек). І вось упершыню рэчы, атрыманыя ад яго музеем, дэманстраваліся на асобнай выставе. Пры яе падрыхтоўцы аказалася, што ўсё паказаць немагчыма: не хапае месца. Абмежаваліся найбольш цікавымі. Некалькі стэндаў занялі старажытныя рэчы, сярод іх — бронзавае царкоўнае ліццё XIX — пачатку XX стагоддзяў, драўляная скульптура святога, посуд, імянныя бутэлькі, адмысловая кафля.

Цікава разглядаць падборкі старадаўніх паштовак з рэпрадукцыямі твораў вядомых мастакоў. Шмат месца занялі кнігі і дакументы. Сярод іх — "Трэбнік" 1765 года, падручнікі, рэлігійныя выданні, часопісы, у тым ліку нумар папулярнага геаграфічнага часопіса "Вокруг света" пачатку стагоддзя. Ёсць цікавыя дакументы з наваколля Дрысвятаў пачатку XX стагоддзя, з архіва друйскага святара Сімяона Кузьміча, які тут жыў у 30-я — 50-я гады, скарб савецкіх грошай, знойдзены пры рамонце дома.

Увогуле выстава атрымалася насычанай і даволі цікавай, бо на ёй можна пабачыць разнастайныя, часам рэдкія рэчы. Абавязкова хацелася б падкрэсліць наступную акалічнасць: усе экспанаты Мікола Паўловіч перадаў музею бясплатна. Калі пра гэта даведваюцца наведвальнікі выставы, то часам чуеш у адказ: "Дзівак..." Няхай сабе і дзівак. Але заўважым, што гэты свет цікавы менавіта дзівакамі, адданымі сваёй справе, шчырымі і бескарыслівымі. Гэта выстава — даніна пашаны аднаму з іх — беларусу з латвійскага Даўгаўпілса Міколе Паўловічу.

**Кастусь ШЫДЛОЎСКІ.**



# ЗНОЎ РОБІЦЬ ІНФАРМАЦЫЮ...»

Проста вярнуцца да старога немагчыма: мова пайшла наперад, узнікла шмат новых з'яў, слоў. Я лёгка чытаю "тарашкевіцу", але бачу, што навучыцца пісаць на ёй цяжка. Скажам, Вінцук Вячорка піша кніжкі зусім іншай мовай, чым некаторыя яго калегі. Але кожны з іх па-свойму патрыёт, любіць і добра ставіцца да роднай мовы.

А калі краіна знойдзе згоду ў мове?.. Хутчэй ніколі. Я займаўся гісторыяй і бачу: заўсёды будзе апазіцыя ў мове.

Дарэчы, старшыня Савета рэспублікі спадар Шыпук і яго памочнік, калі бываюць у Пецярбургу, прыходзяць да нас у бібліятэку, цікавяцца старымі рукапісамі, кнігамі. Я паказваў ім старажытныя гербы, сімволіку. І мне падалося, што бачыў у вачах гэтых людзей непадробную цікавасць.

— *Лічыцца, што ў Расіі асела нямала гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей, у тым ліку і кніг з Беларусі...*

— Так, гэта безумоўны факт: шмат бібліятэк, кніг, карцін трапіла ў Расію. І значная частка з таго прыйшла больш-менш законным шляхам: культурныя асяродкі скуплялі за грошы і вывозілі. Хаця быў і канфіскат. Я бачу праблему ў тым, як выкарыстаць зараз гэтыя скарбы. І гэта ў значнай ступені залежыць ад Акадэміі навук Беларусі і тых інстытутаў, што займаюцца культурай.

Ведаеце, можа і нядрэнна, што ўсё так атрымалася. У час другой сусветнай вайны Беларусь літаральна гарэла ў агні, Ленінград жа не гарэў, і беларускія кнігі там засталіся цэлымі. Вось палякі перад вайной забралі з Ленінграда канфіскат у Варшаву, і ўсё згарэла.

Але ў плане штодзённага вывучэння — канешне, цяжка. Тыя ж пецярбургскія студэнты для сваіх практычных заняткаў маюць арыгінальныя кнігі, а беларускія — у лепшым выпадку перавыданні.

Я доўга думаў над гэтым. Сёння на Беларусі хапае рэдкіх кніг і рукапісаў, каб мясцовая навуковая грамадскасць знаходзіла сабе работу. Тыя ж скарбы, што яшчэ ляжаць у Расіі, — не распрацаваныя настолькі, каб імі займаліся. Яны пакуль чакаюць свайго даследчыка. Чакаць жа можна і тут, і там — гэта не прынцыпова для культуры.

— *Якое ж ваша стаўленне да працэсу вяртання гістарычных і культурных каштоўнасцей?*

— Станоўчае. Але для мяне вяртанне — не перавоз з аднаго месца ў іншае. Для мяне вяртанне — падрыхтоўка сучасных кніг на аснове пераасэнсавання тых, што дайшлі да нас з мінулага, і перадача новых кніг цяперашняму чытачу, у тым ліку і беларускаму. Я сам у гэтай галіне працую і лічу такую дзейнасць важнай, прынамсі, з пункту гледжання гісторыі культуры. А што да юрыдычнага боку, ужо пытанне не да мяне.

— *Дык што ж для вас асабіста Беларусь: радзіма, аб'ект вывучэння ці нешта яшчэ?*

— Беларусь для мяне ўсё: тут я нарадзіўся, тут пахаваны мае бацька, дзед.

Ёсць такое паняцце — "палітычная нацыя". Я жыву ў Расіі 22 гады, палітычна ўжо расіянін: выбіраю расійскага прэзідэнта, мэра Пецярбурга і гэтак далей. Але ўся мая навуковая дзейнасць, а найперш душэўная, скіравана на Беларусь. Я адчуваю важнасць сваёй працы. І мне здаецца, што гэта некаму на Беларусі патрэбна.

Гутарку вяла
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**СТЫЛЬ**



*Ганна ПУМПАЛЁВА сакрэтам касметалогіі, шэйпінга і дэфіле навучылася ў гомельскім рэкламным агенцтве "Грацыя".*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**ЭКСКЛЮЗІЎ**

**Леанід МАРАКОЎ**

# ТРОЕ. LET IT BE![1]

*АПАВЯДАННЕ*

**Каханне!**

**Каханне — гэта найвышэйшая дадзеная Богам духоўная і душэўная ласка. Канцэнтрацыя самага лепшага з набытага чалавекам на зямлі. Саюзнік часу і эвалюцыі.**

**Яно ап'яняе, прымушае губляць галаву і разам з тым узносіць да неба. Робіць свет прыгожым. Рухае яго наперад. Накіроўвае ў будучыню.**

**Каханне — гэта надзея, мара і мроя, покліч продкаў, прага дасканаласці. Усведамленне сэнсу жыцця. Найвышэйшае шчасце. Асалода. Самае светлае жаданне! Удача. Перамога. Удзячнасць. Слёзы і смех. Слёзы радасці. І смех ад душы.**

**Каханне — гэта дабрыня.**

**Гэта — рай!**

**Але ёсць пачуццё, мацнейшае за каханне, самае моцнае ў свеце пачуццё.**

**Рэўнасць!**

**Рэўнасць — гэта пакаранне Гасподняе, найвышэйшае зло.**

**Рэўнасць, як і інтуіцыя, мацнейшая за розум. Але інтуіцыя дапамагае розуму, рэўнасць яго разбурае.**

**Рэўнасць — гэта д'ябал з апраметнай, нячысцік, што пасяліўся ў душы, завалодаў сэрцам, нутром, свядомасцю, целам.**

**Рэўнасць спусташае духоўна, забірае сілы, забівае веды, пазбаўляе розуму, знявечвае жыццё, лёс, наканаванае звыш. У рэўнасці няма логікі. Яна спрадвечна алагічная: кахаеш чалавека і лічыш яго здраднікам.**

**Рэўнасць — гэта атрута, змешаная з крывёю, ракавая пухліна, што ахутала і паралізавала цела, прымушае яго гніць і распадацца. Жах затуманенай свядомасці. Самакатаванне да непрытомнасці.**

**Рэўнасць — гэта перамога рэфлексаў над інстынктамі і наадварот. Але не ў саюзе з эвалюцыяй, а ў бітве з ёю.**

**Рэўнасць — гэта рэгрэс, дарога ў нікуды.**

**Рэўнасць — гэта пекла.**

**Гэта — прорва!**

**Я стаю над гэтаю прорвай. Яшчэ крыху — і вярнуцца ў раўнавагу, у норму, у жыццё стане немажлівым. І тады я сыду ў нікуды. Стану нікім. Памру. Знікну. Мяне не будзе. Будзе яна. Самы блізкі мне чалавек.**

**Let it be!**

**Яна вельмі прыгожая, незвычайна прыгожая. Да асляплення, да затуманненя свядомасці, да страты розуму. Яна мая каханая. Мая жонка. Маё першае і адзінае каханне. Мая надзея. Мой апошні прыстанак. Мой анёл. Лёс.**

**Так! Лёс!**

**Трагедыя! Прорва! Смерць!**

**Сёння яна пайшла. Я разумею, яна стамілася. Увесь час удваіх. Увесь час разам. Толькі я і яна. Вядома, абрыдне. І любімая пайшла.**

**Але чаму я не стаміўся? Чаму так маркочуся па ёй? Уся справа ў каханні? Не ведаю. Проста я хачу, каб яна была побач.**

**Але яна пайшла. Мажліва, яна гэтак хоча, ёй так будзе лепей. Галоўнае, каб каханай было лепей. Але ж ёсць яшчэ і я. Закаханы. Адданы ёй. Чаму яна не падумала пра мяне? Яна ж ведае, што я не магу без яе.**

**Яна ведае.**

**Горка і крыўдна.**

**Яна сказала "выскачу на хвілінку", а яе няма ўжо амаль чатыры гадзіны. Калі б яна папярэдзіла, што мяне чакае расстанне даўжынёю ў вечнасць — я быў бы хоць як-небудзь падрыхтаваны. Паспрабаваў бы яе спыніць. Утрымаць. Я прасіў бы, маліў, угаворваў, пераконваў, спрабаваў вытлумачыць. У мяне быў бы шанц.**

**Але яна сказала "на хвілінку".**

**І як на злосць я не паехаў на працу, застаўся дома. Як на злосць. Цяпер я ведаю. Каханая думала па-іншаму.**

**Гэта прорва!**

**Распачата другая пляшка гарэлкі. Але гэта слабы супраць рэўнасці наркотык. Рэўнасць без напругі ператварае яго ў ваду. Я не п'янею. Застаюся без абароны. Адыходжу ў адчай, няўцешнасць. У жаданне памерці. У Яе Вялікасць рэўнасць. І няма мне ратунку! Няма.**

**Чатыры гадзіны без каханай. Як гэта пакутліва доўга, вечна, назаўсёды. Я зламаўся. Згарэў. Паралізаваны. Хворы. Небяспечны. Гатовы да ўсяго.**

**Гэта прорва.**

**І ўсё ж я веру! Каханая прыйдзе! Я ёй патрэбны. На ўсялякі выпадак (раптам штосьці здарыцца?), але патрэбны. Абавязкова патрэбны. Інакш нельга! Інакш...**

**Яна прыйшла. Тлумачыць (хоць не прасіў), што забавілася ў сяброўкі (дапамагала па гаспадарцы маме; забягала ў офіс да свайго дзядзькі і трапіла на гадавіну фірмы; гуляла па парку — развітвалася з восенню...). Яна гаворыць не змаўкаючы. Гаворыць так, быццам адказвае на пытанні. Навошта, я ж іх не задаваў? Можа, пытанні задалі мае вочы? Ці мае пакуты адчула яе сэрца?**

**Не ведаю.**

**Я сказаў ёй, што сяброўцы званіў (да мамы заязджаў; дзядзька ўчора паехаў за мяжу; а пасля гадзіннай прабежкі па парку ледзь адмыў ад гразі ёю падораныя туфлі). Спакойна сказаў. Слова гонару — спакойна.**

**Але каханай здалося, што я распытваю яе, дапытваю, павышаю голас, гавару здзекліва, не веру ніводнаму слову. І яна ўспыхнула:**

**— Я проста гуляла па вуліцы, хадзіла па крамах. Зайшла ў кавярню перакусіць... Ну і што! Я табе не рабыня, я свабодны чалавек! — абурылася яна. — Ці ты па-іншаму лічыш? Можа, мне і дыхаць нельга без твайго дазволу!! Ты — варвар! Ты...**

**Я зразумеў. Я ўсё зразумеў. Дзе яна была. З кім дыхала. Да каго дакраналася. Хто варвар. Літаральна ўбачыў, як чужы абдымае каханую.**

**Захліснуў боль. Боль да страты свядомасці, да адчаю, да слепаты.**

**І тады я падышоў да свае прорвы. У кожнага яна свая. Цяпер я ведаю.**

**Прорва.**

**Я стаю перад ёю. Толькі Бог вырашыць, што будзе далей.**

**Рэўнасць мацнейшая за розум, але не мацнейшая за Бога. У ім ратунак. Я ведаю.**

**...Ён стаяў на краі даху дваццаціпавярховага дома.**

**Унізе асфальт. Чысты. Ні кусціка, ні дрэўца. Шанцаў выжыць — нуль. Гэта самае галоўнае. Не выжыць! Свет для яго не існаваў. Свет перакуліўся. Знік. Засталося галоўнае. Засталася мэта — не выжыць. Усё.**

**Гэта прорва!**

**Ён глядзеў на неба, пасля апусціў галаву, убачыў, спалохаўся, але адчай перамог страх, і ён скочыў.**

**Ён падаў уніз галавою. Так трэба. Ён чуў сваё: "А-а-а!" і заўважаў, як рэўнасць, што яго душыла, адступае. І ўспыхнула святло. Захацелася жыць. Учапіцца за жыццё. Моцна ўчапіцца. Спыніць смяротэльны палёт. Убачыць неба.**

**Ён паспеў перавярнуцца і ўпаў на ногі. Але...**

**Хрыбет хруснуў, разарваў скуру, вылез вонкі.**

**Ён не разбіў галаву і яшчэ нейкі час дыхаў.**

**Бог выканаў ягоную просьбу. Вызваліў ад удушша рэўнасці. Цяпер ён вольны і шчаслівы.**

**Let it be!**

**А пачыналася ўсё незвычайна, таямніча, казачна. Пачыналася з кахання. Шчасцю не было мяжы. Дні ляцелі, як імгненні, і ён баяўся, што ўсё абернецца салодкім сном. Але аказалася, што каханне было адно на дваіх — яго каханне. Без узаемнасці. Каханне і рэўнасць. І нянавісць. Яе нянавісць.**

**— Так, гэта мой муж, — спакойна пацвердзіла каханая ў моргу. Не чытаючы, падпісала неабходныя паперы.**

**Спакойнай яна здалася маладому следчаму. На справе ж у ёй усё кіпела і бурліла. Яна знемагала ад жадання хутчэй убачыць свайго няўрымслівага, неймаверна моцнага звера. Толькі ён, катуючы, даводзіў яе да затуманення свядомасці. Толькі з ім яна патанала ў аргазме, памірала ад шчасця. Згарала ў агні. Ён быў яе гаспадаром, паганятым. Лупцаваў. Біў. Кусаў. Рваў на часткі. Ён любіў рваць. Ён быў галоўны.**

**Яна шалела ад агіды і болю, рабілася жывёлаю, поўзала перад ім на каленях, лізала яго нямытае цела. Забывалася, губляла свядомасць і зноў упадала ў экстаз. Вар'яцела і цешылася яго сілаю.**

**Яна не ведала, што ў гэтую ноч яе звер вырашыць: час настаў. Час узяць нож. Час рэзаць. Выразаць вантробы гэтай прагавітай сучцы, якая рве на сабе валасы і крычыць, крычыць такое ненавіснае яму слова "яшчэ-э!"**

**І ён усміхнуўся. Усміхаліся яго даўнаўскія вочкі, амаль бязгубы твар. Ён не бачыў, які жахлівы ў гэты момант. Якая ён пачвара. Не бачыла гэтага і яна. Для яе Даўн быў цудоўны. Ён яе галоўны.**

**І Даўн пасміхаўся, напружваўся, думаў. Яму было вельмі цяжка думаць.**

**"Яна ў яго шостая. Далей лічыць не вучылі. Але далей і не трэба. Ён зрабіў усё, што мог. Ён вылечыў пецярых. Вылечыць і яе. Кола замкнецца. Шэсць хворых, шэсць лялек, якія любілі гэтае ненавіснае яму "яшчэ-э!" Ён выканаў умову. Ён стане антыхрыстам. Хутка. Цяпер ужо хутка ён будзе сярод сваіх." І Даўн усміхаўся.**

**Яна не ведала, што чым хутчэй аддаляецца ад морга, тым хутчэй набліжаецца да яго. Не, да нас. І яна перайшла на бег...**

**Хутчэй! Даўн чакае!**

**І яна пабегла па прамой, якая была кругам.**

**Яна не ведала, што рэшту ночы правядзе побач са мною.**

**Яна не ведала.**

**Let it be!**

**— Прыгожая пара, — усміхнуўся патолагаанатам, разразаючы маё цела.**

**Разразаць каханую яму не было патрэбы.**

---

[1] Няхай так будзе! (Англ.).

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**

# ХАТКА ДЛЯ БУСЛОЎ

*СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ*

Прыгожыя птахі — буслы. Сержыку досыць часта даводзіцца іх бачыць, калі ён пешкі ходзіць з электрычкі праз сенажаць на сваё лецішча Крыніцы. Нетаропкія, важныя. Прыгожыя яны і калі ляцяць, і калі паважна і велічна ходзяць па балотных сенажацях і высочваюць няўклюдных жаб.

Жывуць буслы на буслоўках, буслянках, ладзяць якія ім дапамагаюць людзі. Зацягваюць на высокае дрэва, на самую яго макаўку, барану ці старое кола, а ўжо буслы самі даводзяць да ладу сваё жытло: пераплятаюць дубовымі палачкамі, тонкім галейкам. Робяць усё гэта трывала, надзейна. А каб яшчэ і мякка было, то і пярынкамі гняздо ўсцілаюць. Такія буслоўкі людзі і буслы ладзяць спрадвеку. А вось Сержыку аднойчы падалося, што буслікам у такіх буслоўках не зусім зручна, не зусім утульна. А то як жа? Над буслікавым жытлом няма ніякай стрэшкі. Яго паліваюць і мочаць дажджы. Смаліць сонца. І ад вятроў буслікі не абароненыя. Гэта вельмі затурбавала Сержыка. Нейкія шпакі і то маюць сваю шпакоўню. А чаму гэта буслікам ніхто не збудуе вялікую, скажам, як газетны шапік, хатку-шпакоўню?

Сержык запрапанаваў гэта зрабіць мне разам з ім. Балазе, сёлета яму падарылі на яго дзень нараджэння цэлы набор сталярных прыладаў. То адно засталося нам — толькі за працу ўзяцца. Але я ўсумніўся, ці будуць буслікі рады такім хаткам, ці будуць яны ў іх жыць. Здаецца, такіх хатак-шпакоўняў для буслоў ніхто і ніколі не будаваў.

Пра свае сумненні я сказаў Сержыку. Гэта, вядома, засмуціла хлопчыка. Яму так хацелася зрабіць што-кольвек добрае для прыгожых птахаў. А тут выходзіць: яны не маюць патрэбы ў хатках-шпакоўнях. Але чаму?

І я яму патлумачыў:

— Буслікі прызвычаіліся жыць на волі. А ўсялякая шпакоўня, хай сабе вялікая, прасторная, гэта ўжо трохі няволя, страта волі. І ў буслікаў вялікі размах крылаў. Яны любяць на сваіх буслянках трэніраваць крылы. Спахопіцца, бывае, чагось каторы і давай крыламі махаць ды дзюбамі клекатаць: "Клёка, клёка!" Так што, Сержык, буслікі дзякуюць табе за твой клопат пра іх, аднак прыняць тваю прапанову пакуль не могуць. Дый як мы ўсцягнем такую вялікую буслоўку на дрэва?

— А кранам?

— Кранам то кранам... Але такую хатку не вытрымае ніводнае дрэва. Яны ўсе маладыя. А буслы любяць высокія.

Дый такую хатку-шпакоўню можа і вецер зваліць. А вось буслянку з кола ці з бараны ніколі не скідае, бо яны нібы з дрэвам зрастаюцца. З іх буслікам у неба ўзлятаць добра. Гэта нібыта іхні аэрадром. А як бы яны ўзляталі да неба, каб над імі былі стрэшка і сцены? Хіба кулём, як парашутысты, выкідваліся з хаткі і, ужо куляючыся, у паветры распраставалі б крылы.

Не ведаю, ці пераканаў я Сержыка, ці ў яго засталася мара: калі-небудзь, як вырасце, збудаваць усё ж хатку-шпакоўню для буслоў. Пажывем — пабачым.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

# *УРОКІ ДЗЕДА-ЎСЁВЕДА:*

# СВОЙСКІЯ ЖЫВЁЛЫ, ПТУШКІ

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МАЕ ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

**ЗАПОМНІЦЕ НОВЫЯ СЛОВЫ**

**Сво́йскія жывёлы** — домашние животные.
**Ко́т** — кот.
**Ко́шка** — кошка.
**Кацяня́, кацянё** — котёнок.
**Саба́ка** (м. р.) — собака (ж. р.).
**Шчаня́, шчанё** — щенок.
**Ко́нь** — лошадь.
**Жарабя́, жарабё** — жеребёнок.
**Каро́ва** — корова.
**Цяля́, цялё** — телёнок.
**Аве́чка** — овца.
**Бара́н, марка́ч** — баран.
**Ягня́, ягнё** — ягнёнок.
**Каза́** — коза.
**Казляня́, казлянё** — козлёнок.
**Свіння́** — свинья.
**Парася́, парасё** — поросёнок.
**Жывёла, скаці́на, бы́дла** — скот.
**Ку́рыца** — курица.
**Пе́вень** — петух.
**Кураня́, куранё** — цыплёнок.
**Гу́сь** — гусь.
**Гуса́к** — гусак.
**Гусяня́, гусянё** — гусёнок.
**Ка́чка** — утка.
**Ка́чар** — селезень.
**Качаня́, качанё** — утёнок.
**Інды́к** — индюк.
**Індычаня́, індычанё** — индюшонок.
**Інды́чка** — индюшка.
**Ко́рм** — корм.
**Па́ша** — пастбище.
**Се́на** — сено.
**Адры́на** — сеновал (сарай).
**Кармле́нне** — кормёжка.





**ПРАЧЫТАЙЦЕ СЛОВЫ, ВЫПІШЫЦЕ ТЫЯ, З ЯКІМІ СУСТРЭЛІСЯ ЎПЕРШЫНЮ, І СКЛАДЗІЦЕ З ІМІ СКАЗЫ.**



**А ГЭТЫЯ ЗАГАДКІ ЗАГАДАЙЦЕ СВАІМ ЗНАЁМЫМ**

Ходзіць цар па градзе, носіць блін на барадзе.
**(Певень).**

Усіх возіць, а сам пехатою ходзіць.
**(Конь).**

Чатыры дзяды назад барадамі.
**(Конскія капыты).**

Маленькія лапкі, на лапках драпкі,
Ціхенька ступае, мышак пужае.
**(Кот).**

Каля бочкі качаюцца клубочкі.
**(Парасяты каля свінні).**

З людзьмі сябруе, хату вартуе,
Жыве пад ганкам, хвост абаранкам.
**(Сабака).**

Ці то ў будні, ці то ў святы —
Носіць свой кажух багаты.
А яна ж яго не шыла
І за грошы не купіла.
**(Авечка).**

**МОЖА ВАМ СПАДАБАЮЦЦА ЖАРТАЎЛІВЫЯ ВЕРШЫКІ**

**КАЗА**

Казёл казе на імяніны
Прынёс чарвонай канюшыны.

Каза расчулена ад ласкі:
— Якія свежанькія краскі!

— Каб не завянулі, адразу
Пастаў іх, мілая, у вазу.

Каза з дакорам паглядзела
І канюшыну тут жа з'ела.

*В. ГАРДЗЕЙ.*

**БЫЧОК**

Глядзіць бычок мой спадылба,
Бо навязалі да слупа.

Баліць малому галава,
І стала горкая трава.

Куплю кефіру, малачка,
Падвесялю свайго бычка.

*А. ЛОЙКА.*

**ГЭТЫ ВЕРШ МОЖНА НАВАТ ПРАІНСЦЭНІРАВАЦЬ**

**ЖАРТ**

Ну і гнуткая лаза!
Вяжа венікі каза.
А карова ёй:
— Му-у, му-у,
Гэта венікі каму?
— Мэ-э, патрэбны мне самой.
— Будзеш парыцца зімой?
— Не, абед рыхтую дзецям:
Казляняты любяць вецце.

*Н. ГАЛІНОЎСКАЯ.*





**ПРАПАНУЮ ВАМ ГУЛЬНЮ "ВОЎК І ГУСІ"**

На полі гуляюць гусяняты. Паміж полем і іх домам — воўк. Маці-гусь кліча гусянят дамоў:

— Гусі. Гусі...
— Га-га-га!
— Есці хочаце?
— Ага!
— Дык ляціце...
— Го-го-го... Воўк зубаты за гарой.
— Гусі, гусі!
— Го-го-го...
— Вы не бойцеся яго!

Гусі бягуць да маці, а воўк стараецца злавіць іх. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль воўк не пераловіць усіх гусей.

**НУ ВОСЬ НА ГЭТЫМ І ЎСЁ. ПІШЫЦЕ МНЕ, ПРА ШТО Б ВЫ ЯШЧЭ ХАЦЕЛІ ПАЧУЦЬ. ДА ПАБАЧЭННЯ!**

Падрыхтавала
**Святлана КАРПУЧОК.**

**Фота Зінаіды МІШУРЫ і БелТА.**


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

**РЭДАКЦЫЯ:**
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2471.
Падпісана да друку 2.10.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).